# ВЕСЬНІК

## ЦЭНТРАЛЬНАГА ВЫКАНАЎЧАГА КАМІТЭТУ,

## РАДЫ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ
## і
## РАДЫ ПРАЦЫ і АБАРОНЫ

## САЮЗУ
## САВЕЦКІХ СОЦЫАЛІСТЫЧНЫХ РЭСПУБЛІК

---

## ПАСТАНОВЫ і ЗАГАДЫ
### РАБОЧАГА і СЯЛЯНСКАГА ЎРАДУ
### САЮЗУ ССР

№ 2.

ЦВК
РНК
РПА
СССР

АРТЫКУЛЫ
45 — 52.

---

ВЫДАНЬНЕ ЦВК САЮЗУ ССР
Масква ◇ 1923 ◇ Крэмль.

# ВЕСЬНІК

## ЦЭНТРАЛЬНАГА ВЫКАНАЎЧАГА КАМІТЭТУ,

### РАДЫ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ
### і
### РАДЫ ПРАЦЫ і АБАРОНЫ



## САЮЗУ
## САВЕЦКІХ СОЦЫАЛІСТЫЧНЫХ РЭСПУБЛІК

### ПАСТАНОВЫ і ЗАГАДЫ
РАБОЧАГА і СЯЛЯНСКАГА ЎРАДУ
САЮЗУ ССР

№ 2.

АРТЫКУЛЫ
45—52.

ВЫДАНЬНЕ ЦВК САЮЗУ ССР
Масква ◇ 1923 ◇ Крэмль.

# ЗЬМЕСТ.

# ПАСТАНОВЫ і ЗАГАДЫ
# Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту
## Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік.

**45. Аснаўны закон канстытуцыя Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік.**

### РАЗЬДЗЕЛ ПЕРШЫ.

**Дэклярацыя аб Утварэньні Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік.**

Ад часу утварэньня савецкіх рэспублік дзяржавы сьвету расшчапіліся на два станы: стан капіталізму і стан соцыялізму.

Там, у стане капіталізму—нацыянальная варожасьць і няроўнпраў'е колёніальны прыгон і шовінізм, нацыянальны уціск і гвалты, імперыялістычныя батурствы і войны.

Тут, у стане соцыялізму—ўзаемные даверра і згода, нацыянальная вольнасьць і роўнапраў'е ціхамірнае жыцьцё і братэрскае супрацоўніцтва народаў.

Пакусы капіталістычнага сьвету ў працягу дзесяткоў гадоў разьвязаць пытаньне аб нацыянальнасьцях шляхам злучэньня вольнага разьвіцьця народаў з ладам эксплёатацыі чалавека чалавекам—карысных вынікаў не далі. Наадварот, клубок нацыянальных супярэчак усё больш заблытваецца, награжаючы самому існаваньню капіталізму. Буржуазія выявіла сваю няздольнасьць пры наладжаньні супрацоўніцтва народаў.

Толькі ў стане саветаў, толькі пры умовах дыктатуры пролетарыяту, якая згуртавала навокала сябе большасьць насе́леньня, выявілася мажлівым зьнішчыць у шчэнт нацыянальны уціск, утварыць абставіны ўзаемнага даверра і залажыць асновы братэрскага супрацоўніцтва народаў.

Толькі дзякуючы гэтым акалічнасьцям удалося савецкім рэспублікам адбіць навалу імперыялістаў усяго сьвету, унутраных і знадворных, толькі дзякуючы гэтым акалічнасьцям удалося ім з посьпехам зліквідаваць грамадзянскую вайну, забязьпечыць сваё існаваньне і падыйсьці да ціхамірнага гаспадарчага будаўніцтва.

Але час вайны пакінуў свае сьляды. Разбураныя нівы, спыненыя заводы, разбураныя вытворчыя сілы й зьнішчаныя гаспадарчыя рэсурсы, якія засталіся ў спадчыну ад вайны, робяць невыстарчаючымі паасобныя высілкі асобных рэспублік па гаспадарчаму будаўніцтву. Адбудаваньне народнае гаспадаркі справа немажлівая пры па-асобным існаваньні рэспублік.

З другога боку, няпэўнасьць міжнароднага становішча і пагроза новымі навваламі робяць няухільным утварэньне адзінага фронту савецкіх рэспублік перад з'явішчам абваколеньня капіталістычнага.

У рэшце, самае пабудаваньне Савецкае улады, інтэрнацыянальнай па сваёй клясавай прыродзе, піхае працоўныя грамады савецкіх рэспублік на шлях злучэньня ў адну соцыялістычную сям'ю.

Усе гэтыя акалічнасьці загадна патрабуюць злучэньня савецкіх рэспублік у адну саюзную дзяржаву, здольнае забязьпечыць і знадворную бязьпеку і ўнутраную гаспадарчую пасьпяховасьць і вольнасьць нацыянальнага разьвіцьця народаў.

Жаданьне народаў савецкіх рэспублік, якія сабраліся нядаўна на з'езды сваіх саветаў і аднадушна црынялі пастанову аб утварэньні «Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік», дае пэўны заклад таго, што Саюз гэты з'яўляецца самахотным злучэньнем роўнапраўных народаў, што за кожнай рэспублікай забязьпечана права вольнага адлучэньня ад Саюзу, што прылучэньне да Саюзу адчынена ўсім соцыялістычным савецкім рэспублікам, як ужо існуючым, гэдак і маючым узьнікнуць у будучыне, што новая саюзная дзяржава будзе дастойным зьвяршэньнем заложаных яшчэ ў кастрычніку (октябре) 1917 г. асноваў ціхамірнага жыцьця і братэрскага супрацоўніцтва народаў, што яна будзе спадзейным заслоньнем супроць сусьветнага капіталізму і новым рашучым крокам на шляху аб'яднаньня працоўных усіх краёў у Сусьветную Соцыялістычную Савецкую Рэспубліку.

---

## РАЗЬДЗЕЛ ДРУГІ.

### Умова.

Расійская Соцыялістычная Фэдэратыўная Савецкая Рэспубліка (РСФСР), Украінская Соцыялістычная Савецкая Рэспубліка (УССР), Беларуская Соцыялістычная Савецкая Рэспубліка (БССР) і Закаўказкая Соцыялістычная Фэдэратыўная Савецкая Рэспубліка (ЗСФСР— Савецкая Соцыялістычная Рэспубліка Азэрбейджана, Савецкая Соцыялістычная Рэспуэліка Грузіі і Савецкая Соцыялістычная Рэспубліка Армепіі) злучаюцца ў адну саюзную дзяржаву — «**Саюз Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік**».

---

### ПАДЗЕЛ ПЕРШЫ.

**Прадметы веданьня найвышэйшых органаў улады Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік.**

**1.** Веданьню Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік, у асобе яго найвышэйшых органаў, падлягаюць:

а) прадстаўніцтва Саюзу ў міжнародных зносінах, вядзеньне ўсіх дыплёматычных зносін, заключэньне палітычных і іншых умоваў з другімі дзяржавамі:

б) зьмены знадворных межаў Саюзу, а так сама ўрэгуляваньне пытаньняў аб зьменах межаў між саюзнымі рэспублікамі;

в) заключэньне ўмоваў аб прыняцьці ў склад Саюзу новых рэспублік;

г) абвешчаньне вайны й заключэньне міру;

д) заключэньне знадворных і ўнутраных пазычак Саюзу ССР і дазваленьне знадворных і ўнутраных пазычак саюзных рэспублік;

е) ратыфікацыя міжнародных умоваў;

ж) кіраваньне замежным гандлям і ўстанаўленьне ўкладу ўнутранага гандлю;

з) устанаўленьне асновы й агульнага пляну ўсяе народнае гаспадаркі Саюзу, вызначэньне галін прамысловасьці й асобных прамысловых прадпрыемстаў, што маюць агульна—саюзнае значэньне, заключэньне концэсыйных умоваў, як агульна саюзных, так і ад імя, саюзных рэспублік;

і) кіраваньне транспартнаю й почт - тэлеграфнаю справаю;

к) арганізаваньне й кіраваньне ўзброенымі сіламі Саюзу ССР;

л) зацьверджаньне адзінага дзяржаўнага бюджэту Саюзу ССР, у склад якога ўваходзяць бюджэты саюзных рэспублік; устанаўленьне агульна-саюзных падаткаў і даходаў, а так сама адлічэньняп ад іх і надбавак да іх, што йдуць на утварэньне бюджэтаў саюзных рэспублік; дазваленьне дадатковых падаткаў і збораў на ўтварэньне бюджэтаў саюзных рэспублік;

м) устанаўленьне адзінага грашовага й крэдытовага ўкладу;

н) устанаўленьне агульных астояў землебудаўніцтва й землекарыстаньня, а так сама карыстаньня нетрамі, пушчамі й водамі на ўсім абшары Саюзу ССР;

о) агульна-саюзнае законадаўства аб міжрэспубліканскіх перасяленьнях і ўстанаўленьне перасяленцкага фонду;

п) ўстанаўленьне асновы судабудаўніцтва й судаводзтва, а так сама грамадзянскага й карачыннага законадаўства Саюзу;

р) устанаўленьне аснаўных законаў аб працы;

с) устанаўленьне агульных астояў у галіне народнае асьветы;

т) устанаўленьне агульных заходаў у галіне аховы народнага здароўʻя;

у) устанаўленьне сістэмы мерак і вагі;

ф) арганізаваньне агульна-саюзнае статыстыкі;

х) аснаўное законадаўства ў адносінах Саюзнага грамадзянства і ў адносінах правоў чужаземцаў;

ц) права амністыі, якоя пашыраецца на ўсю тэрыторыю Саюзу;

ч) касаваньне пастановаў зʻездаў Саветаў і цэнтральных выканаўчых камітэтаў саюзных рэспублік, якія будуць нарушаць гэты Аснаўны Закон;

ш) развязаньне спрэчных пытаньняў, якія выбухаюць між саюзнымі рэспублікамі.

**2.** Зацьверджаньне й зьмены аснаўных астояў гэтае Канстытуцыі падлягаюць выключна веданьню зʻезду Саветаў Саюзу ССР.

---

### ПАДЗЕЛ ДРУГІ.

**Аб суверэнных правох саюзных рэспублік і аб саюзным грамадзянстве.**

**3.** Суверэннасьць саюзных рэспублік абмяжавана толькі ў памеры, наказаным у гэтым Аснаўным Законе, і толькі ў адносінах прадметаў, што належаць да безпасрэднага веданьня Саюзу цераз гэтае абмяжаваньне. За гэнымі памерамі кожная рэспубліка ажыцьцяўляе сваю дзяржаўную ўладу самастойна; Саюз ССР абараняе правы суверэннасьці саюзных рэспублік.

**4.** За кожнай з саюзных рэспублік захоўваецца права вольнага адлучэньня ад Саюзу.

**5.** Саюзныя рэспублікі, згодна з гэтым Аснаўным Законам, уносяць зьмены ў свае Аснаўныя Законы.

**6.** Абшар саюзных рэспублік бяз іх згоды зьмяняць нельга, а так сама для зьмены, абмяжаваньня або скасаваньня артыкулу 4-га патрабуецца згода усіх рэспублік, якія ўваходзяць у Саюз ССР.

**7.** Для грамадзян саюзных рэспублік устанаўляецца адзінае саюзнае грамадзянства.

---

### ПАДЗЕЛ ТРЭЦІ.

**Аб зʻезду Саветаў Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік.**

**8.** Найвышэйшым органам улады Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік зʻяўляецца зʻезд Саветаў, а ў часе між зʻездамі Саветаў—Цэнтральны Выканаўчы Камітэт Саюзу ССР, які складаецца з Саюзнае Рады й Рады Нацыянальнасьцяў.

**9.** Зʻезд саветаў Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік складаецца з прадстаўнікоў гарадзкіх саветаў

з разлічэньня 1 дэпутат на 25.000 выбаршчыкаў і прадстаўнікоў губэрскіх з'ездаў саветаў з разлічэньня 1 дэпутат на 125.000 выбаршчыкаў.

**10.** Дэлегаты на з'езд саветаў Саюзу ССР абіраюцца на губэрскіх з'ездах саветаў. У тых рэспубліках, дзе няма губэрскіх злучэньняў, дэлегаты абіраюцца безпасрэдна на з'езду саветаў гэнай рэспублікі.

**11.** Чарговыя з'езды саветаў Саюзу ССР склікаюцца ЦВК'ам Саюзу ССР адзін раз на год; надзвычайныя з'езды склікаюцца ЦВК'ам Саюзу ССР водлуг яго ўласнага вырашэньня, водлуг патрабаваньня Саюзнае Рады, Рады Нацыянальнасьцяў, або ж водлуг патрабаваньня двух саюзных рэспублік.

**12.** Пры надзвычайных акалічнасьцях, якія будуць прашкаджаць скліканьню ў тэрмін з'езду саветаў Саюзу ССР, ЦВК'ту Саюзу ССР даецца права адкладу ў часе скліканьня З'езду.

---

ПАДЗЕЛ ЧАЦЬВЕРТЫ.

### Аб Цэнтральным Выканаўчым Камітэту Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік

**13.** Цэнтральны Выканаўчы Камітэт Саюзу ССР складаецца з Саюзнае Рады й Рады Нацыянальнасьцяў.

**14.** З'езд саветаў Саюзу ССР абірае Саюзную Раду з прадстаўнікоў саюзных рэспублік, пропорцыйна насяленьню кожнае, усяго ў складзе 371 сябры.

**15.** Рада Нацыянальнасьцяў утвараецца з прадстаўнікоў саюзных і аўтаномных савецкіх соцыялістычных рэспублік па 5 прадстаўнікоў ад кожнае й прадстаўнікоў аўтаномных краінаў РСФСР па аднаму прадстаўніку ад кожнае. Склад Рады Нацыянальнасьцяў цалкам зацьвярджаецца з'ездам саветаў Саюзу ССР.

**Увага.** Аўтаномныя рэспублікі Аджарыі і Абхазіі, а так сама аўтаномная краіна Паўднёва-Осецiя пасылаюць у Раду Нацыянальнасьцяў па аднаму прадстаўніку.

**16.** Саюзная Рада й Рада Нацыянальнасьцяў разглядаюць усе дэкрэты, кодэксы й пастановы, якія пераходзяць да іх ад Прэзыдыуму ЦВК'ту й Раднаркому Саюзу ССР, паасобных наркаматаў Саюзу, ЦВК'аў саюзных рэспублік, а так сама тыя, якія ўзьнікаюць праз ініцыятыву Саюзнае Рады й Рады Нацыянальнасьцяў.

**17.** ЦВК Саюзу ССР выдае кодэксы, дэкрэты, пастановы й загады, злучае працу па законадаўству й кіраваньню Саюзу ССР і вызначае межы чыннасьці Прэзыдыуму ЦВК'ту й Раднаркому Саюзу ССР.

**18.** Усе дэкрэты й пастановы, якія вызначаюць агульныя нормы палітычнага й эканамічнага жыцьця Саюзу ССР, а так сама якія ўносяць грунтоўныя зьмены ў практыку дзяржаўных органаў Саюзу ССР, якая істнуе,—павінны абавязкова ўсходзіць на разгляд і зацьверджаньне ЦВК'ту Саюзу ССР.

**19.** Усе дэкрэты, пастановы й загады, якія выдае ЦВК, з'яўляюцца абавязковымі да безпасрэднага выкананьня на ўсім абшары Саюзу ССР.

**20.** Цэнтральны Выканаўчы Камітэт Саюзу ССР мае права спыняць або касаваць дэкрэты, пастановы й загады Прэзыдыуму ЦВК'у Саюзу ССР, а так сама з'ездаў саветаў і ЦВК'аў саюзных рэспублік і другіх органаў улады на обшары Сюазу ССР.

**21.** Чарговыя сэсіі ЦВК'у ССР склікаюцца Прэзыдыумам ЦВК'у тры разы на год. Надзвычайныя сэсіі склікаюцца водлуг пастановы Прэзыдыуму ЦВК'у Саюзу ССР, водлуг патрабаваньня Презыдыуму Саюзнае Рады або Презыдыуму Рады Нацыянальнасьцяў, а так сама водлуг патрабаваньня ЦВК'у аднэй з саюзных рэспублік.

**22.** Законапроэкты, якія ўсходзяць на разгляд ЦВК'у Саюзу ССР, атрымоўваюць сілу закону толькі пры ўмове ухваленьня іх як Саюзнаю Радаю, так і Радаю Нацыянальнасьцяў і абвяшчаюцца ад імя ЦВК'ту Саюзу ССР.

**23.** У выпадках нязгоды між Саюзнаю Радаю й Радаю Нацыянальнасьцяў, пытаньне перадаецца ў камісію улагоджаньня, якая імі ўтвараецца.

**24.** У выпадку недасягненьня згоды ў камісіі улагоджаньня, пытаньне пераносіцца на разгляд злучанага пасяджэньня Саюзнае Рады й Рады Нацыянальнасьцяў, прычым, у выпадку адсутнасьці большасьці галасоў Саюзнае Рады або Рады Нацыянальнасьцяў, пытаньне можа быць пераданым, водлуг патрабаваньня аднаго з гэных органаў, на вырашэньне чарговага або надзвычайнага с'езду саветаў Саюзу ССР.

**25.** Саюзная Рада й Рада Нацыянальнасьцяў для падрыхтаваньня іх сэсіяў і кіраваньня працаю апошніх выбіраюць свае Прэзыдыумы, ў складзе на 7 сяброў кожны.

**26.** У часе між сэсіямі ЦВК'ту Саюзу ССР, вышэйшым органам улады з'яўляецца Презыдыум ЦВК,у Саюзу ССР, які ўтвараецца ЦВК'ам у колькасьці 21 сябры, у лік якіх уваходзяць у поўным складзе Прэзыдыумы Саюзнае Рады й Рады Нацыянальнасьцяў.

**27.** Цэнтральны Выканаўчы Камітэт выбірае водлуг ліку саюзных рэспублік 4-х старшынь ЦВК'у Саюзу ССР з складу сяброў Прэзыдыуму ЦВК'у Саюзу ССР.

**28.** Цэнтральны Выканаўчы Камітэт Саюзу ССР у адносінах адказнасьці залежыць ад з'езду саветаў Саюзу ССР.

---

ПАДЗЕЛ ПЯТЫ.

### Аб Прэзыдыуме Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР.

**29.** Прэзыдыум ЦВК'у Саюзу ССР, у часе між сэсіяў ЦВК'у Саюзу ССР, з'яўляецца вышэйшым законадаўчым, выканаўчым і распарадчым органам улады Саюзу ССР.

**30.** Презыдыум ЦВК,у Саюзу ССР сочыць за ажыцьцяўленьнем Аснаўнога Закону Саюзу ССР і выкананьнем усіх настановаў з'езду саветаў ў ЦВК'у Саюзу ССР усімі органамі ўлады.

**31.** Прэзыдыум ЦВК'у Саюзу ССР мае права спыняць і касаваць пастановы РНК і асобных наркаматаў

Саюзу ССР, а так сама ЦВК'аў і Раднаркомаў саюзных рэспублік.

**32.** Прэзыдыум ЦВК'у Саюзу мае права спыняць пастановы з'езду саветаў саюзных рэспублік з далейшым унясеньнем гэных пастановаў на разгляд і зацьверджаньне ЦВК'у Саюзу ССР.

**33.** Прэзыдыум ЦВК'у Саюзу ССР выдае дэкрэты, пастановы й загады, разглядае й зацьверджае проэкты дэкрэтаў і пастановаў, што ўносяцца Радаю Народных Камісараў, паасобнымі ведамствамі Саюзу ССР, ЦВК'амі саюзных рэспублік, іх Прэзыдыумамі і іншымі органамі ўлады.

**34.** Дэкрэты й пастановы ЦВК'у, яго Презыдыуму й Раднаркому Саюзу ССР друкуюцца ў мовах, якія звычайна ўжываюцца ў саюзных рэспубліках (расійская, украінская, беларуская, грузінская, армянская, тюркататарская).

**35.** Прэзыдыум ЦВК'у Саюзу ССР вырашае пытаньні аб узаемаадносінах між РНК Саюзу ССР і народнымі камісарыятамі Саюзу ССР з аднаго боку, і ЦВК'амі саюзных рэспублік і іх прэзыдыумамі—з другога.

**36.** Прэзыдыум ЦВК'у Саюзу ССР у адносінах адказнасьці падлягае ЦВК'у Саюзу ССР.

---

## ПАДЗЕЛ ШОСТЫ.

### Аб Радзе Народных Камісараў Саюзу ССР.

**37.** Рада Народных Камісараў Саюзу ССР з'яўляецца выканаўчым і разпарадчым органам ЦВК'у Саюзу ССР і ўтвараецца ЦВК'ам Саюзу ССР у складзе:
старшыні рады народных камісараў Саюзу ССР,
намесьнікаў старшыні,
народнага камісара замежных спраў,
народнага камісара ваенных і марскіх спраў,
народнага камісара замежнага гандлю,
народнага камісара шляхоў зносін,
народнага камісара почт і тэлеграфаў,
народнага камісара работн.-селянскае інспэкцыі,
старшыні вышэйшае рады народнае гаспадаркі,
народнага камісара працы,
народнага камісара харчовых спраў,
народнага камісара грашовых спраў.

**38.** Рада Народных Камісараў Саюзу ССР, у межах вылучаных ёй ЦВК'ам Саюзу правоў і на падставе палажэньня аб Радзе Народных Камісараў Саюзу ССР, выдае дэкрэты й пастановы, якія з'яўляюцца абавязковымі да выкананьня на усім абшары Саюзу ССР.

**39.** Рада Народных Камісараў Саюзу ССР разглядае дэкрэты й пастановы, якія ўносяць як паасобныя наркаматы Саюзу ССР, так і ЦВК'ы саюзных рэспублік і іх презыдыумы.

**40.** Рада Народных Камісараў Саюзу ССР у ва ўсей сваей працы, у адносінах адказнасьці залежыць ад ЦВК'ту Саюзу ССР і яго Прэзыдыуму.

**41.** Пастановы й загады РНК Саюзу ССР могуць спыняцца й касавацца ЦВК'ам Саюсу ССР і яго прэзыдыумам.

**42.** Цэнтральныя Выканаўчыя Камітэты саюзных рэспублік і іх Прэзыдыумы апратастоўваюць дэкрэты й пастановы РНК Саюзу ССР у Прэзыдыум ЦВК'у Саюзу ССР, ня спыняючы іх выкананьня.

---

## ПАДЗЕЛ СЁМЫ.

### Аб Найвышэйшым Судзе Саюзу ССР.

**43.** Дзеля мэты зацьверджаньня рэволюцыйнае законнасьці на абшарах Саюзу ССР пры ЦВК'ту Саюзу ССР утвараецца Найвышэйшы Суд, да компэтэнцыі якога належаць:
а) выданьне найвышэйшым судом саюзных рэспублік кіраўнічых тлумачэньняў аб пытаньнях агульна-саюзнага законадаўства;
б) разгляд і апратастоўваньне перад ЦВК'ам Саюзу ССР аодлуг заходаў прокурора Найвышэйшага Суду Саюзу ССР пастановаў, вырашэньняў і прыгавораў найвышэйшых судоў саюзных рэспублік, водлуг памяркаваньня супярэчнасьці іх агульна-саюзнаму законадаўству, або паколькі імі парушаюцца інтэрасы другіх рэспублік;
в) выданьне заключэньняў водлуг патрабаваньня ЦВК'у Саюзу ССР аб законнасьці тых ці іншых пастановаў саюзных рэспублік з погляду Аснаўнога Закону;
г) разьвязаньне судовых спрэчак між саюзнымі рэспублікамі;
д) разгляд справаў абвінавачваньня вышэйшых урадовых асобаў Саюзу ў злачынствах на пасадзе.

**44.** Найвышэйшы Суд ССР вядзе чыннасьці у складзе:
а) пленарнага пасяджэньня Найвышэйшага Суду Саюзу ССР;
б) грамадзянска-судовае й карачынна-судовае Калегіяў Найвышэйшага Суду Саюзу ССР;
в) ваеннае й ваенна-транспартнае калегіяў.

**45.** Найвышэйшы Суд Саюзу ССР у складзе яго пленарнага пасяджэньня ўтвараецца з 11-х сяброў, у тым ліку старшыні й яго намесьніка, 4-х прадстаўнікоў пленарных пасяджэньняў найвышэйшых судоў саюзных рэспублік і аднаго прадстаўніка АДПУ Саюзу ССР, прычым старшыня, яго намесьнік і пяць апошных сяброў назначаюцца Прэзыдыумам ЦВК'у Саюзу ССР.

**46.** Пракурор Найвышэйшага Суду Саюзу ССР і яго намесьнік назначаюцца Прэзыдыумам ЦВК'у Саюзу ССР. На абавязкі пракурору Найвышэйшага Суду Саюзу ССР кладзецца выданьне заключэньняў водлуг усіх пытаньняў, якія падлягаюць вырашэньню Найвышэйшага Суду ССР, падтрымоўваньне абвінавачваньня на яго пасяджэньні і, ў выпадку нязгоды з вырашэньнямі пленарнага пасяджэньня Найвышэйшага Суду Саюзу ССР, апратастоўваньне іх у Прэзыдыум ЦВК'у Саюзу ССР.

**47.** Права накіроўваньня паказаных у артыкуле 43 пытаньняў на разгляд пленарнага пасяджэньня Найвышэйшага Суду Саюзу ССР можыць быць выключна праз ініцыатыву ЦВК'у Саюзу ССР, яго Прэзыдыуму, пракурора Найвышэйшага Суду Саюзу ССР, пракурораў саюзных рэспублік і АДПУ Саюзу ССР.

**48.** Пленарныя пасяджэньні Найвышэйшага Суду Саюзу ўтвараюць адумысловыя судовыя склады для разгляду:

а) карачынных і грамадзянскіх спраў выключнае вагі, якія чапляюць водлуг свайго зьместу дзьве ці нескалькі саюзныя рэспублікі, і

б) спраў пэрсональнае падсуднасьці сяброў ЦВК'у і РНК Саюзу ССР.

Прыняцьце Найвышэйшым Судом Саюзу ССР на сваё веданьне гэных спраў можыць быць выключна праз асабістыя на кожны выпадак пастановы ЦВК,у Саюзу або яго Прэзыдыуму.

---

## ПАДЗЕЛ ВОСЬМЫ.

### Аб Народных Камісарыятах Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік.

**49.** Для безпасрэднага кіраваньня паасобнымі галінамі дзяржаўнага упраўленьня, якія ўвайходзяць у абшар веданьня РНК Саюзу ССР, утвараецца 10 народных камісарыятаў, на якія паказана ў артыкуле 37 гэтага Аснаўнога Закону і якія праводзяць чыннасьці на падставе палажэньняў аб народных камісарыятах, што зацьверджаны ЦВК'ам Саюзу ССР.

**50.** Народныя Камісарыяты Саюзу ССР падзяляюцца на:

а) агульна-саюзныя народныя камісарыяты—адзіныя для ўсяго Саюзу ССР;

б) аб'яднаныя народныя камісарыяты Саюзу ССР.

**51.** Агульна-саюзнымі народнымі камісарыятамі Саюзу ССР з'яўляюцца народныя камісарыяты:

замежных спраў,
ваенных і марскіх спраў,
замежнага гандлю,
шляхоў зносін,
почт і тэлеграфаў.

**52.** Аб'яднанымі народнымі камісарыятамі Саюзу ССР з'яўляюцца народныя камісарыяты:

вышэйшая рада народнае гаспадаркі,
харчовых спраў,
працы,
грашовых спраў і
работніцка-селянскае інспэкцыі.

**53.** Агульна-саюзныя народныя камісарыяты Саюзу ССР маюць пры саюзных рэспубліках сваіх упоўнаважаных, якія беспасрэдна ім падлягаюць.

**54.** Органамі аб'яднаных народных камісарыятаў Саюзу ССР, якія ажыцьцяўляюць на абшарах саюзных рэспублік іх заданьні, з'яўляюцца народныя камісарыяты гэных рэспублік тэй самай назвы.

**55.** На чале народных камісарыятаў Саюзу ССР стаяць сябры Рады Народных Камісараў—народныя камісары Саюзу ССР.

**56.** Пры кожным народным камісары, пад яго старшынствам, утвараецца калегія, сябры якой назначаюцца РНК Саюзу ССР.

**57.** Народны камісар паўнамоцны пэрсанальна прыймаць вырашэньні аб усіх пытаньнях, якія падлягаюць веданьню адпаведнага камісарыяту, даводзячы аб іх да вядомкі калегіі. У выпадку нязгоды з тым ці іншым вырашэньнем народнага камісара, калегія або паасобныя яе сябры, не спыняючы выкананьня вырашэньня, могуць жаліцца на яго ў РНК Саюзу ССР.

**58.** Загады паасобных народных камісарыятаў Сяюзу ССР могуць касавацца Прэзыдыумам ЦВК'у і РНК Саюзу ССР.

**59.** Загады народных камісарыятаў Саюзу ССР могуць спыняцца ЦВК'амі або прэзыдыумамі ЦВК'аў саюзных рэспублік пры вочавідкай нязгодзе гэнага загаду з Аснаўным Законам, законадаўствам Саюзу або законадаўствам саюзнае рэспублікі.

**60.** Народныя Камісары Саюзу ССР у адносінах адказнасьці залежаць ад РНК, ЦВК'у Саюзу ССР і яго прэзыдыуму.

---

## ПАДЗЕЛ ДЗЕВЯТЫ.

### Аб аб'яднанай дзяржаўнай палітычнай управе.

**61.** Дзеля мэты злучэньня рэвалюцыйных высілкаў саюзных рэспублік па змаганьню з палітычнай і эканамічнай контр-рэвалюцыяй, шпегаваньнем і бандытызмам, утвараецца пры РНК Саюзу ССР аб'яднаная дзяржаўная палітычная управа (АДПУ), старшыня якой увайходзіць у РНК Саюзу ССР з правам народнага голасу.

**62.** АДПУ Саюзу ССР кіруе працаю мясцовых органаў ДПУ праз сваіх упоўнаважаных пры радах народных камісараў саюзных рэспублік, якія праводзяць чыннасьць на падставе адумысловага палажэньня, зацьверджанага законадаўчым шляхом.

**63.** Нагляд за праўнасьцю дзеяў АДПУ Саюзу ССР ажыцьцяўляецца пракурорам Найвышэйшага Суду Саюзу ССР на падставе адумысловае пастановы ЦВК'у Саюзу ССР.

---

## ПАДЗЕЛ ДЗЕСЯТЫ.

### Аб саюзных рэспубліках.

**64.** У межах тэрыторыі кожнае саюзнае рэспублікі найвышэйшым органам улады апошняй з'яўляецца З'езд саветаў рэспублікі, а ў адрыўках між с'ездамі—яе цэнтральны выканаўчы камітэт.

**65.** Узаемаадносіны між найвышэйшымі органамі ўлады саюзных рэспублік і найвышэйшымі органамі ўлады Саюзу ССР устанаўляюцца гэтым Аснаўным Законам.

**66.** Цэнтральныя выканаўчыя камітэты саюзных рэспублік выбіраюць са свайго складу Прэзыдыумы, якія ў часе між сэсіяў ЦВК'аў з'яўляюцца вышэйшымі органамі ўлады.

**67.** ЦВК'ты саюзных рэспублік утвараюць свае выканаўчыя органы — рады народных камісараў у складзе:

старшыні рады народных камісараў,
намесьнікаў старшыні,
старшыні вышэйшае рады народнае гаспадаркі,
народнага камісара земляробства,
народнага камісара грашовых спраў,
народнага камісара харчовых спраў,
народнага камісара працы,
народнага камісара унутраных спраў,
народнага камісара юстыцыі,
народнага камісара работн.-селянскае інспэкцыі,
народнага камісара асьветы,
народнага камісара аховы здароў'я,
народнага камісара соцыяльнае забязьпекі, а так сама, з правам нараднага або рашучага голасу, водлуг вырашэньня ЦВК'аў саюзных рэспублік, упоўнаважных ад народных камісараў Саюзу ССР замежных спраў, ваенных і марскіх спраў, замежнага гандлю, шляхоў зносін, почт і тэлеграфаў.

**68.** Вышэйшая рада народнае гаспадаркі й народныя камісар'яты харчовых спраў, грашовых, працы, работн.-селянскае інспэкцыі саюзных рэспублік, падлягаючы ЦВК'ам і рàдам народных камісараў саюзных рэспублік, ажыцьцяўляюць у сваёй чыннасьці дырэктывы адпаведных народных камісарыятаў Саюзу ССР.

**69.** Права амністыі, а так сама права памілаваньня й рэабілітацыі ў адносінах да грамацзян, якіх засудзяць судовыя й адміністратыўныя органы саюзных рэспублік, захоўваецца за ЦВК'амі гэных рэспублік.

---

ПАДЗЕЛ АДЗІНАДЦАТЫ.

**Аб гэрбу, сьцягу й сталіцы Саюзу Савецкіх Социялістычных Рэспублік.**

**70.** Дзяржаўны гэрб Саюзу Савецкіх Социялістычных Рэспублік складаецца з сярпа й молату на сусьветнай кулі выйяўленных, у праменьнях солнца, абваколеных каласамі, с надпісам на шасьцёх мовах, што пералічаны ў арт. 34: **„Пролетарыі ўсіх краёў, злучайцеся!“** На версе гэрбу маецца пяцёхканцовая зорка.

**71.** Дзяржаўны сьцяг Саюзу ССР складаецца з чырвонай або ірдзелявай тканіны, з выяўленьнем дзяржаўнага гэрбу.

**72.** Сталіцаю Саюзу Савецкіх Социялістычных Рэспублік з'яўляецца г. Масква.

---

## 46. Аб Констытуцыі Саюзу ССР.

**1.** Аснаўны Закон (Констытуцыю) Саюзў Савецкіх Социялістычных Рэспублік зацьвердзіць і неакладна ажыцьцявіць.

**2.** Тэкст Аснаўнога Закону (Констытуцыі) Саюзу Савецкіх Социялістычных Рэспублік, які гэта сэсія ЦВК'ту Саюзу ССР ухваліла, падаць на канчатковае зацьверджаньне II з'езду саветаў Саюзу ССР.

**3.** Да часу ўтварэньня Прэзыдыуму ЦВК'у Саюзу ССР, усе паўнамоцтвы, якія падаюцца ЦВК'у Аснаўным Законам, узлажыць на Прэзыдыум ЦВК'у Саюзу ССР, выбраны на I сэсіі ЦВК'у Саюзу ССР 30-га сьнежня 1922 году, у складзе 19-цёх сяброў.

---

## 47. Аб Радзе Працы і Абароны Саюзу ССР.

Даручыць Раднаркому Саюзу, дзеля мэты пасьпешнага й хуткага разьвязваньня пытаньняў, што тычацца гаспадарчага адраджэньня й абароны Саюзу Савецкіх Социялістычных Рэспублік, утварыць Раду Працы і Абароны Саюзу ССР.

---

## 48. Аб цэнтральнай статыстычнай управе Саюзу ССР.

Даручыць Радзе Народных Камісараў і Прэзыдыуму ЦВК'ту Саюзу ССР утварыць цэнтральную статыстычную управу Саюзу ССР.

---

## 49. Аб дзяржаўным банку Саюзу ССР.

Даручыць РНК і Прэзыдыуму ЦВК'у Саюзу ССР перагледзіць статут дзяржаўнага банку РСФСР й рэорганізаваць яго. як дзяржаўны банк Саюзу ССР.

---

## 50. Аб палажэньнях аб ЦВК'ту й Раднаркому і асобных наркаматах Саюзу ССР.

1. Даручыць Прэзыдыуму ЦВК'у Саюзу ССР падрыхтаваць палажэньне аб ЦВК, РНК і паасобных народных камісарыятах Саюзу ССР і падаць іх на зацьверджаньне бліжэйшае сэсіі ЦВК'у Саюзу ССР.
2. Даручыць Прэзыдыуму ЦВК'у Саюзу ССР апрацаваць і зацьвердзіць:

а) палажэньне аб бюджэтнай камісіі ЦВК'у Саюзу ССР і

в) палажэньне аа аб'яднанай дзяржаўнай політычнай управе.

---

## 51. Аб Найвышэйшым судзе Саюзу ССР.

Дзеля патрэбнасьці,—ў зьвязку з ухваленьнем падзелу 7-га Аснаўнога Закону аб Вышэйшым Саюзным Судзе,—адпаведным парадкам перапрацаваць і зьмяніць палажэньне аб вярхоўных судох саюзных рэспублік і процэсуальны кодэкс, які чыннасьць мае, а ў асобку—водлуг размяжаваньня падсуднасьці ўрадовых асоб Саюзу і вышэйшых урадовых асоб саюзных рэспублік, аб парадку разгляду спраў і касаваньня прыгавароў за вайсковыя учынкі, а так сама учынкі. зьвязаныя з разладжаньнем транспарту, — даручыць Прэзыдыуму ЦВК'у Саюзу ССР, на падставе ухваленага Аснаўнога Закону:

а) апрацаваць падрабязговае палажэньне аб Найвышэйшым Судзе Саюзу ССР і

б) пагадзіць, пасьля зносін з ЦВК'мі саюзных рэспублік, істнуючыя палажэньні аб найвышэйшых судох рэспублік і процэсуальныя кодэксы.

Да часу зацьверджаньня Прэзыдыумам ЦВК'у Саюзу ССР і выданьня гэткага палажэньня, найвышыйшыя суды Рэспублік працягваюць працу на падставах істнуючых аб іх палажэньнях.

---

**52. Аб складзе Рады Народных Камісараў Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік.**

Зацьвердзіць: Старшынёй Рады Народных Камісараў Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік **Ул. І. Ульянава (Леніна)**;

намесьнікамі старшыні Рады Народных Камісараў Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік—**Л. В. Каменева, А. І. Рыкава, А. Д. Цурупу, В. Я. Чубара** і **М. Д. Орахелашвільлі.**

народным камісарам замежных спраў—**Г. В. Чычэрына**;
народным камісарам ваенных і марскіх спраў—**Л. Д. Троцкага**;
народным камісарам замежнага гандлю—**Л. Б. Красіна**;
народным камісарам шляхоў зносін—**Ф. Э. Дзяржынскага**;

народным камісарам почт і тэлеграфаў—**І. Н. Сьмірнова**;

народным камісарам работн.-селянск. інспэкцыі—**В. В. Куйбышава**;

старшынёй вышэйшае рады народнае гаспадаркі—**А. І. Рыкава**;

народным камісарам працы—**В. В. Шмідта**;

народным камісарам харчовых спраў—**Н. П. Бруханава**;
народным камісарам грашовых спрау—**Г. Я. Сакольнікава.**

*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

6 ліпеня 1923 г.
Масква—Крэмль.

---

Главлит. № 12726. Тираж 5.000

„Мосполиграф"—20-я типография „Красный Пролетарий" Пименовская, ул. 1/16.

# ВЫДАНЬНІ ЦВК САЮЗУ ССР

## НА РАСЕЙСКАЙ, УКРАІНСКАЙ, БЕЛАРУСКАЙ, ГРУЗІНСКАЙ, АРМЯНСКАЙ и ТЮРКА-ТАТАРСКАЙ МОВАХ.

1. Першы з'езд саветаў Саюзу ССР. Стэнаграфічная справаздача (*з дыяграмамі і статыстычнымі дôвадамі*).
2. Пастановы 1 з'езду саветаў Саюзу ССР.
3. I сэсія ЦВК Саюзу ССР. Стэнаграфічная справаздача і пастановы (*разам і асобна*).
4. II сэсія ЦВК Саюзу ССР. Стэнаграфічная справаздача і пастановы (*разам і асобна*).
5. Весьнік рабочага і сялянскага Ўраду Саюзу ССР (*двухтыднёвік*). *№ 1.*

АДРАС ВЫДАВЕЦТВА:
МАСКВА—КРЭМЛЬ—ЦВК САЮЗУ ССР.
ТЭЛЕФОНЫ: Крэмль, дадатк. 1-27 і гарад. 19-92.

ПРАДАЖА ВЫДАНЬНЯЎ ВЯДЗЕЦЦА
ПРАЗ ЮРЫДЫЧНАЕ КНІГАВЫДАВЕЦТВА НКЮ.
„МОСКВА, Рождественка, 9"